З Новым 2001 годам, сябры!




# Газета Слонімская

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

№1 (187). 4 — 10 студзеня 2001г. Масава-палітычны штотыднёвік http://gs.promedia.minsk.by Кошт 110 руб.


## Васіль Быкаў павіншаваў са святам землякоў

**Народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў у эфіры Радыё Свабода павіншаваў беларусаў з новым годам, новым стагоддзем і новым тысячагоддзем.**

Так, час бяжыць – новы год, новае стагоддзе, новае тысячагоддзе. Не часта ў гісторыі так выпадае – такі збег часавай трыяды. Сумна, аднак, тое, што час новы, а нашыя клопаты ўсе старыя; усё тыя ж, што і сто, і дзвесце гадоў таму. Гэтыя клопаты для нацыі, мусіць, найпершыя, першачарговыя, таму яны і ўвасобіліся ў плён для усіх без выключэння еўрапейскіх нацыяў, апроч беларусаў. Я маю на ўвазе, вядома ж, нашую свабоду і незалежнасць. Зрэшты, калі б было штосьці адно – свабода без незалежнасці альбо незалежнасць без свабоды, але так не бывае. Сумна ўсё гэта, балюча і турботна. Але без таго не абыйсціся, калі хочаш жыць, а не добраахвотна класціся ў дамавіну. Дык вось найпершае маё пытанне: чаго наша нацыя хоча? Вельмі пажадана мець на яго пэўны адказ. На жаль, такога адказу няма. Менавіта з гэтым звязаны ўсе мае сумненні, спадзяванкі і пажаданкі на новы год, новае стагоддзе і новае тысячагоддзе.

З Новым годам Вас, мае дарагія землякі!

**Васіль БЫКАЎ**

## "Сюрпрыз" з вадою

**31 снежня жыхары вуліц Скарыны, Брэсцкай, Яршова, Тапалёвай і Косаўскі тракт атрымалі традыцыйны "сюрпрыз" з вадою.**

З кранаў у кватэрах цякла брудная рыжая вадкасць. Такая сітуацыя была і год назад. Яна паўтарылася і напярэдадні новага 2001 года і тысячагоддзя.

Што ж, праблема з вадою ў Слоніме існуе, і ніхто яе пакуль вырашаць не збіраецца.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## НОВЫЙ ГОД ВСТРЕТИЛИ ВЕСЕЛО

**Вот и прошел самый любимый в народе праздник — Новый год. В связи с этим корреспонденты "ГС" обратились к слонимчанам с вопросом: "Как вы встретили новое тысячелетие?"**

**Дмитрий Смирнов, Диана Головачик:**



– Новый год – семейный праздник, поэтому мы никуда не ходили и провели этот праздник дома, смотрели телевизор. Было весело.



**Александр Минич**, *рабочий 8-й автобазы:*

– Мы с друзьями были на елке в Альбертине. Там была музыка, мы хорошо повеселились.

**Семья Шевчковых:**



– Наша семья встретила Новый год отлично. Мы были дома, потом ходили на елку в центр. Было весело.

**Оксана Исайчева**, *безработная:*



– Мы отмечали Новый год с друзьями, ходили на дискотеку. Там было много людей, нам было весело, так как компания у нас дружная и замечательная.

**Андрей, Павел, Александр**, *учащиеся:*

– Мы отметили этот праздник очень хорошо. Ходили по всему Слониму, были на елке.

**Семья Кравченко:**

– Скучноватый Новый год был. Никакого праздника не чувствовалось.

**Виталий Михалевич, Денис Юруш**, *военнослужащие:*



– Отметили нормально, с соком. Нам ведь никуда нельзя из казармы выходить.

**Ольга ШИНКЕВИЧ, Виталий ГИЛЬ (фото)**

НАВІНЫ

## Першыя сланімчанкі XXI стагоддзя

**У першыя два дні новага 2001 года ў радзільным аддзяленні Слонімскай бальніцы на свет з'явіліся дзве маленькія сланімчанкі.**

Першага студзеня жыхарка Слоніма Рыма Ёрш нарадзіла дзяўчынку.

Другога студзеня ў жыхаркі вёскі Голі Слонімскага раёна Наталлі Нейн таксама нарадзілася дачушка. Цікава, што абедзве дзяўчынкі заважылі па 3кг 250г.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Старые банкноты обменяют на новые

**С 1 января 2001 года на территории Беларуси прекратилось обращение расчетных билетов образца 1992—1999 годов — они утратили платежеспособность и не подлежат приему ни в какие виды платежей.**

Оставшиеся на руках у граждан банкноты старого образца можно обменять на новые в белорусских банках без всяких ограничений и взимания комиссионных.

**Алексей ОРЕШКО**

## З нараджэннем Хрыстовым!

*Узлюбленыя ў Госпадзе архіпастыры, пастыры, манахі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!*

*Гасподзь падарыў усім нам вялікую радасць і высокую адказнасць: жыць перад абліччам Божым і здзяйсняць наш хрысціянскі подзвіг збаўлення ў той час, калі спаўняецца дзве тысячы гадоў ад Раждзества Хрыстовага і надыходзіць трэцяе тысячагоддзе новазапаветнага быцця роду чалавечага.*

*Святая ноч Раждзаства, пасярод якой заззяла Сонца Праўды – Хрыстос Бог наш, стала цэнтрам гісторыі часоў і народаў. Гэта падзея аб'яднала вакол сябе не толькі ўвесь род чалавечы ад Адама да нашых дзён, але і Божыя задумы пра стварэнне свету, пра яго быццё і пра надыход новага неба і новай зямлі, на якіх жыве праўда (2 Пят. 3: 13).*

*Таму, дарагія мае, я з асаблівай настойлівасцю заклікаю братоў архіпастыраў, клір, манахаў і ўсю нашу богалюбівую паству з увагай і любоўю ўспрыняць Саборнае слова Маці-Царквы і, захоўваючы яго ў сэрцы, з высокай адказнасцю працяваць выкананне нашых жыццёвых і царкоўных абавязкаў на славу Божую, на карысць Святой Царкве і нашай зямной Бацькаўшчыне.*

*Радасна святкуючы 2000-гадовы юбілей Хрысціянства, мы ахопліваем духоўным позіркам многавекавы шлях Праваслаўя на Беларускай зямлі. І ад гэтага мы адчуваем цяпер, у дні святкавання Раждзаства Хрыстовага, – светлую пасхальную радасць.*

*Уваходзячы ў трэцяе тысячагоддзе хрысціянскага быцця роду чалавечага, мы ўсклікаем разам са старазапаветным прарокам: "Смерць! дзе тваё джала? пекла! дзе твая перамога?" (Ас. 13: 14). І ў вуснах нашых – новазапаветнае прароцтва аб Хрысце: "ад Духа Святога... народзіць Сына, і дасі Яму імя Ісус, бо Ён збавіць людзей Сваіх ад грахоў іх" (Мф. 1: 20-21).*

*"Хрыстос нараджаецца – слаўце"!*

**ФІЛАРЭТ, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі**

## У слонімскіх мусульман — новы імам

**На трэці дзень свята Рамазан байрама адбыўся пятнічны сход Слонімскай мусульманскай абшчыны.**

Новым імамам Слонімскай мячэці быў выбраны Сулейман Байрашэўскі. За ім захавалася і пасада старшыні абшчыны. На сходзе была выказана вялікая ўдзячнасць за шматгадовую працу імамам абшчыны Хасану Мустафавічу Ждановічу.

Савет Слонімскай мусульманскай абшчыны віншуе праз "Газету Слонімскую" усіх хрысціян з 2000-годдзем Раства Хрыстова.

**Наталля ФУРСАВА**

## Чарга па яйкі

**Самым вялікім дэфіцытам напярэдадні Новага года былі ў Слоніме курыныя яйкі.**

Людзі выстройваліся ў чэргі, каб іх набыць. Тыя, каму больш пашанцавала, Новы год сустрэлі з яйкамі, а астатнія былі без іх.

Такое становішча з яйкамі склалася і ў Мастах. Людзі па гэты "дэлікатэс" ездзілі нават у Гродна.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ІНТЭРВ'Ю

## ВІТАЛЬ АНІСЬКА: "Бразільцы вельмі добразычлівыя людзі"



**Як ужо паведамляла "ГС", слонімец Віталь Аніська нядаўна заняў сёмае месца на чэмпіянаце свету па стоклетачных шашках сярод юніёраў у Бразіліі. Сёння ён адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.**

Віталю Аніську 19 гадоў. Шашкамі пачаў займацца ў 1994 годзе. Першымі трэнерамі былі яго бацька Аляксандр Аніська і Мікалай Якута. Спачатку гуляў у дзіцячых турнірах, але праз некалькі гадоў пачаў выступаць і ў дарослых спаборніцтвах. Цяпер Віталь студэнт 3-га курса геаграфічнага факультэта БДУ, яго будучая прафесія – эколаг. Зараз ён здае зімовую сесію. Пасля вяртання з Бразіліі ў Віталя было толькі два дні на падрыхтоўку да экзамена, але здаў ён яго на "выдатна".

**(Працяг на 2 стр.)**

## Забастовка предпринимателей

**В забастовке индивидуальных предпринимателей, которая официально началась в Беларуси 1 января и продлится пять дней, примет участие не менее 100 тысяч человек. Такое мнение выразил председатель стачкома Валерий Левоневский.**

"Организация нынешней забастовки сопровождалась определенными сложностями, – сказал Левоневский. – Активизировались местные власти, которые были шокированы масштабностью однодневной забастовки 23 ноября. Началась контрпропаганда приближенных к госструктурам профсоюзов. Кроме того, у нас было мало времени на подготовку: продолжительность забастовки – с 1 по 5 января – была определена только в середине декабря, и информация дошла не до всех. Не исключено, что в Минске от 20 до 30 процентов предпринимателей все же выйдут на работу".

**БелаПАН**



Фота Віталя Гіля

## ПРОГНОЗ ПОГОДЫ по Гродненской области

Сегодня и в ближайшие дни облачно, временами осадки, мокрый снег, местами туман, гололед. Ветер южный 6-11 м/с. Температура воздуха ночью -4 – +1, днем +3 – -2.

**Облгидрометеоцентр**

ІНТЭРВ'Ю

# ВІТАЛЬ АНІСЬКА:
## "Бразільцы вельмі добразычлівыя людзі"

**(Працяг. Пачатак на 1 стр.)**

***— Напомні нашым чытачам, як ты трапіў на чэмпіянат свету?***

— У кастрычніку праводзіўся чэмпіянат Беларусі па шашках-100 сярод юнакоў, які я выйграў і атрымаў магчымасць удзельнічаць у першынстве свету. Адзін ад Беларусі. Маглі б паслаць і больш удзельнікаў, але ў нашай краіны існуе праблема з фінансамі...

***— Як ты дабіраўся да Бразіліі?***

— Ляцеў на самалёце з Мінска ў Франфуркт-на-Майне, дзе восем гадзін чакаў самалёт у Бразілію. Там у аэрапорце сустрэў літоўскага шашыста, які ехаў на чэмпіянат са сваім бацькам-трэнерам. Гэты літовец стаў чэмпіёнам сярод кадэтаў.

***— Як вас сустрэлі бразільцы?***

— Сустрэлі нармальна. З аэрапорта нас павезлі ў горад Мангагуа, дзе праходзіў чэмпіянат. Недзе гадзіну ехалі па горадзе Сан-Паўлу. Гэта вялікі горад — каля 16 мільёнаў жыхароў... Пасялілі нас у невялікім гатэлі на сорак месцаў. Падчас чэмпіянату ў ім жылі толькі шашысты.

***— А чаму чэмпіянат праводзіўся менавіта ў Бразіліі?***

— Зараз бразільцы ўзяліся за развіццё стоклетачных шашак у сваёй краіне. А раней у іх была папулярнай бразільская версія 64-клетачных шашак.

***— Прадстаўнікі якіх краін удзельнічалі ў чэмпіянаце?***

— Вядома, былі гаспадары-бразільцы, былі шашысты з Бельгіі, Галандыі, Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Францыі і Італіі. У выніку, перамог украінец Юрый Анікееў (сёлета ён стаў і чэмпіёнам Еўропы), на другім месцы — галандзец Ван дэр Війк (быў чэмпіёнам свету ў мінулым годзе), а трэцяе заняў расіянін.

***— Як бы ты ацаніў падрыхтоўку сваіх сапернікаў?***

— Падрыхтоўка, вядома, у іх моцная. Асабліва гэта датычыць спартсменаў Галандыі, Украіны і Расіі, дзе традыцыйна моцныя шашачныя школы. Аднак і ў Беларусі шашачная школа таксама заслугоўвае ўвагі.

***— І хто ў апошні час больш перамагае?***

— На апошніх чатырох чэмпіянатах свету сярод юнакоў тры разы перамагалі ўкраінцы. А да гэтага больш удала выступалі расіяне.

***— Як ішла ў цябе гульня?***

— Гульня ішла з перападамі. Першы тур выйграў, другі прайграў і так далей. У апошнім туры гуляў з Юрыем Анікеевым, які стаў чэмпіёнам...

***— Хваляванняў не было? Не баяўся аўтарытэтаў?***

— Не было. Два з паловай гады назад я гуляў на чэмпіянаце свету па рускіх шашках у Адэсе, дзе таксама былі моцныя ўдзельнікі. І тады ўкраінец Анікееў таксама перамог сярод юнакоў.

***— Моўны бар'ер быў?***

— Адкрыццё праводзілася на ангельскай мове. Амаль усе разумелі. А суддзі былі мясцовыя, размаўлялі па-партугальску...

***— Як выступілі бразільскія шашысты?***

— Не зусім удала. Яны паставілі на гульню вельмі маладых спартсменаў. Больш вопытныя выступалі сярод кадэтаў.

***— На якім узроўні была арганізацыя спаборніцтваў?***

— Арганізацыя была нядрэнная. Для спаборніцтваў выдзелілі асобную залу, у якой на поўную магутнасць працавалі кандыцыянеры, бо ў Бразіліі спякотна. Першыя тры дні ішлі дажджы, было пахмурна, і тэмпература трымалася на ўзроўні 20 градусаў. А потым тэмпература дасягнула 35-40 градусаў.

***— Акрамя саміх спаборніцтваў вы яшчэ пабывалі і на экскурсіях?***

— Так. Нас вазілі па ваколіцах Мангагуа, у батанічны парк, на платформу ў акіяне. А таксама — у Сан-Паўлу. Ды і жылі, і гулялі мы ў прыгожым месцы, недалёка ад акіяна.

***— Чым яшчэ запомнілася Бразілія?***

— Бразільцы вельмі добразычлівыя людзі, заўсёды ўсміхаюцца. Але і там існуе вялікі разрыў паміж слаямі грамадства. У гарадах ёсць раёны для багатых і бедных. І розніца між імі адчувальная.

У Бразіліі якраз адзначаліся каталіцкія Каляды. Там 90% жыхароў католікі. У нас у гэты дзень не было гульняў. Апоўначы ў горадзе быў салют, а ў палове першай нас запрасілі за святочны стол, на якім асноўнай стравай быў пірог з ізюмам.

***— Па бразільскаму тэлебачанню таксама паказваюць серыялы?***

— На бразільскіх тэлеканалах пераважаюць забаўляльныя праграмы.

***— Што далей, якія цябе спаборніцтвы чакаюць?***

— Наступнае спаборніцтва — гэта адбор у мужчынскую лігу Беларусі па стоклетачных шашках. Гульні будуць праходзіць у канцы студзеня — пачатку лютага.

**Сяргей ЁРШ**

*Падчас гульні Віталя Аніські і галандца Ван дэр Війка*

*Афіша чэмпіянату свету па шашках*

НАВІНЫ

### Адзначылі юбілей

**У бібліятэцы Саюза беларускіх пісьменнікаў у Мінску адбыўся літаратурны вечар, прысвечаны 70-годдзю нашага земляка Міколы Арочкі.**

У ім прынялі ўдзел вучні, настаўнікі і пісьменнікі Паўлюк Прануза, Янка Саламевіч і Навум Гальпяровіч. Вёў вечарыну паэт Анатоль Вярцінскі.

### Нараджаемся і паміраем

**За 2000 год у Слоніме нарадзілася 545 дзяцей.**

Памерла слонімцаў на чатыры менш, чым нарадзілася — 541.

За ўвесь мінулы год у нашым горадзе ўступіла ў шлюб 381 маладая пара.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

### Банк застаўся без дробных грошай

**У апошні тыдзень старога года ў нязвыклай сітуацыі апынуліся арганізацыі Мастоў, якія мелі стасункі з наяўнымі грашыма.**

Пры выдачы заработнай платы і іншых фінансавых разліках пастаянна ўзнікалі цяжкасці, і звязаны яны былі з тым, што банк не выдаваў дробных грошай.

### "Канікулы" зацягваюцца

**На ААТ "Мастоўдрэў" спынена праца. І звязана тое не з Калядамі і Новым годам, а з адсутнасцю сыравіны.**

Першы працоўны дзень у новым годзе, магчыма, пачнецца толькі восьмага студзеня.

### ДАІ сведчыць

**За мінулы год супрацоўнікамі Мастоўскага ДАІ было затрымана 348 п'яных вадзіцеляў.**

А ўсяго імі было выяўлена чатыры з паловаю тысячы дарожных парушэнняў. За гэты перыяд на тэрыторыі Мастоўскага раёна ў аварыях загінулі сем чалавек, раненні атрымалі 32 вадзіцелі і пасажыры.

### Злачынстваў стала менш

Начальнік Мастоўскага РАУС Іван Здановіч паведаміў карэспандэнту "ГС", што колькасць злачынстваў у раёне на працягу мінулага года значна зменшылася, і яе ўзровень застаецца самы нізкі ў вобласці і складае 57,7 злачынства на 10 тысяч чалавек.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Брава, "Акцэнт"!

**У гарадскім пасёлку Навальня, што ў Дзятлаўскім раёне, ёсць эстрадны духавы аркестр, якому прысвоена званне народнага.**

Музыканты і спявачка Ала Аўдзейчык летам 2000 года прымалі ўдзел у "Славянскім базары". Нядаўна ў Дзятлаўскім гарадскім доме культуры адбылося выступленне аркестра. У яго суправаджэнні Ала Аўдзейчык выканала эстрадныя песні, якія вельмі спадабаліся гледачам. Кіруе аркестрам Аляксандр Літвінскі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Бычкі за салому

Кіраўніцтва саўгаса "Мастоўскі", каб разлічыцца з даўгамі і заплаціць рабочым заработную плату, вымушана было тэрмінова прадаць дваццаць маладых бычкоў у калгас "Дружба" Мастоўскага раёна, які мінулай зімою дапамог гаспадарцы саломаю.

**Антон МАКЕЙ**

### Дзеці пабачылі казку

**Напярэдані Новага года творчы калектыў Мастоўскага раённага дома культуры паказаў дзецям незвычайнае прадстаўленне — масавае дзіцячае свята "Карнавал на мяжы тысячагоддзяў".**

Прадстаўленне распачалося на вуліцах горада, дзе шчыравалі калядоўшчыкі, затым перамясцілася ў фае і глядзельную залу дома культуры. Удзельнікі карнавалу сустрэліся са шматлікімі казачнымі героямі. Кіраўніком праекту выступіў Віктар Качан, рэжысура Ірыны Прохар. А ўсяго ў прадстаўленні было занята 39 чалавек. Мясцовыя артысты на працягу аднаго дня паспелі даць два прадстаўленні і сабралі вялікую колькасць як дзяцей, так і бацькоў. На думку мастаўчан, гэта, бадай, першае за апошнія некалькі гадоў удала праведзенае мерапрыемства.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

### Беларускую мову лепш ведаюць у райцэнтры

**У раённай алімпіядзе па беларускай мове, якая прайшла ў Дзятлаве, выдатныя веды паказалі вучні дзятлаўскай СШ №3.**

Першае месца занялі: Таццяна Гармашук (9 клас), Ксенія Крывеня (10 клас) і Вераніка Чэчка (11 клас). Яны будуць абараняць гонар раёна на абласной алімпіядзе, якая пройдзе ў пачатку студзеня.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

### Вынікі конкурсу

**Рэдакцыя часопіса "Вожык" падвяла вынікі конкурсу "У гэтым свеце рознае бывае" за 2000 год.**

Пераможцам прызнаны Язэп Палубятка, творы якога змяшчаліся на старонках выдання на працягу мінулага года. Дарэчы, ён ужо быў пераможцам гэтага конкурсу у 1995 годзе.

У свой час творы Язэпа Палубяткі друкаваліся ў часопісах "Маладосць" — аповесць "Вялікая Жнівеньская...", у "Крыніцы" — "Салдацкае Евангелле". Апошняя аповесць была прызнана лепшай сярод твораў, надрукаваных у гэтым часопісе. Зараз незалежнае выданне "Мастоўскі веснік" друкуе яго твор "Правільнае рашэнне, таварыш прэзідэнт". Газета "Наша слова" распачынае публікацыю сатырычнай аповесці "Дуралесіца". Часопіс "Крыніца" плануе ў бягучым годзе надрукаваць новую яго аповесць "Прыгоды Мармулка".

**Аляксей САБАСЦЯН**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі .........2-14-39
.........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы .........2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Падпісана да друку 3 студзеня 2001г.
Час падпісання 7:00.
Надрукавана ў Гродзенскім абласным унітарным прадпрыемстве "Слонімская друкарня", г. Слонім, вул. Хлюпіна, 16.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
63646 (ільготная)
Наклад 9700 экз.
Заказ № 2.

Газета Слонімская
4 — 10 студзеня 2001г. № 1 (187)

# В МИНСКЕ ОТКРЫЛИ НОВЫЙ ВОКЗАЛ

**Символичным назвал президент Александр Лукашенко открытие первой очереди железнодорожного вокзала в Минске накануне нового века и нового тысячелетия. Об этом он заявил на торжественной церемонии открытия вокзала 30 декабря.**



Фота IREX/ProMedia

*Новый железнодорожный вокзал. Минск, декабрь 2000г.*

То, что в Беларуси строятся такие "уникальные сооружения", свидетельствует о "здоровой экономике", считает Александр Лукашенко. Ввод в эксплуатацию минского вокзала, который отвечает мировым стандартам, он назвал шагом в развитии всего железнодорожного комплекса страны.

За последние 3–4 года в строительство вокзала вложено почти 500 миллионов долларов США, сообщил президент. В 2001 году, по его словам, планируется сдать вторую очередь вокзала в Минске, а затем — реконструировать Привокзальную площадь.

Нужно напомнить, что здание вокзала на станции Минск-Пассажирский было построено в 1871 году. Во время Великой Отечественной войны вокзал был частично разрушен, однако уже в 1946 году его удалось восстановить. Первый конкурс на лучший проект нового вокзального комплекса был объявлен в 1975 году. Его победителями стали два института — "Белгоспроект" и "Мосжелдорпроект". В 1985 году началось строительство здания над железнодорожными путями, тоннеля под ним, а также служебно-технического здания, где размещаются администрация вокзала, комната матери и ребенка и помещение для отдыха пассажиров. Оно было завершено в 1990 году. В 1991 году снесли старое здание вокзала, однако начавшиеся работы по строительству нового вскоре были приостановлены из-за нехватки средств и неактуальности архитектурных решений. Был объявлен повторный конкурс, в котором участвовали 7 проектных коллективов. Предпочтение было отдано институту "Минскпроект", который предложил проект вокзала с подземным уровнем и комплексным благоустройством привокзальных площадей.

**Максим ТИТОВ**

## Профсоюзы за реальный рост заработной платы

**Повышение средней зарплаты до 100 долларов США, которое обещает в будущем году белорусское руководство, "обернется дальнейшим удорожанием жизни", считают в Федерации профсоюзов белорусской (ФПБ).**

"На протяжении ряда лет из-за безудержного роста цен и тарифов происходит снижение реальной заработной платы, обнищание населения, — говорится в заявлении президиума Совета ФПБ. — Государственные меры по повышению с 1 декабря 2000 года доходов населения ситуацию к лучшему не меняют. Зарплата фактически превращается в социальное пособие, размер которого не зависит от отношения к труду, уровня образования и квалификации работников".

На фоне растущего недовольства людей, отмечается в заявлении Федерации профсоюзов, "все чаще звучат заявления руководителей государства о необходимости повышения среднемесячной зарплаты до уровня 100 долларов. В то же время умалчивается, что неизбежен дальнейший рост цен на основные продукты питания и другие товары, а также резкое повышение оплаты жилищно-коммунальных услуг".

Федерация профсоюзов "настаивает на создании необходимых условий для повышения эффективности производства и обеспечении на этой основе реального роста заработной платы, преодоления бедности в обществе".

**Ирина ЛЕВШИНА**

## Помогут ли власти нуждающимся белорусам?

**С 1 января 2001 года белорусское правительство начнало работу над реализацией программы адресной социальной помощи нуждающимся.**

Об этом заявил премьер-министр Беларуси Владимир Ермошин. Например, по словам Ермошина, государство окажет помощь семье из трех человек, если доход этой семьи будет "ниже установленной минимально допустимой нормы жизни человека". Вместе с тем премьер признал, что наладить эту систему будет достаточно сложно: потребуется создать персонифицированный учет, "надо, чтобы неформально работали социальные службы". "Но эту работу мы начинаем и будем вести ее теперь постоянно", — подчеркнул глава белорусского правительства.

**Владимир ГЛОД**

# ЦЕНЗУРА ПО-ПРЕЖНЕМУ ДЕЙСТВУЕТ

**29 декабря независимая белорусская газета "Наша свобода" вышла с "белыми пятнами" на месте сатирическо-юмористического раздела "Stinger".**

Руководство типографии "Мэджик" отказалось печатать газету с этим разделом после того, как представители Государственного комитета по печати пригрозили, что "Мэджик" может потерять лицензию. Исполнительный директор типографии Степан Жарносек говорит, что 28 декабря он был вызван в Госкомпечати, где ему заявили, что типография нарушила закон, напечатав первый выпуск "Stinger" на прошлой неделе, поскольку это отдельное издание, которое должно быть зарегистрировано. По словам г-на Жарносека, представители Госкомпечати заявили, что если выйдет второй выпуск, "Мэджик" будет лишен лицензии.

По мнению редакции "Нашай свабоды", типография взяла на себя функции цензуры. "Возможно, вырабатывается новый способ создания препятствий для независимых газет накануне президентских выборов, — отмечается в редакционной статье газеты за 29 декабря. — Такая схема дает возможность перекладывать ответственность с плеч государства на плечи частного предприятия", пишет "Наша свабода".

Как заявил БелаПАН заместитель главного редактора "Нашай свабоды" Владимир Довженко, претензии Госкомпечати абсолютно безосновательны. "Stinger" является не отдельным изданием, но элементом 16-полосной газеты, поэтому никаких законов нарушено не было, считает он.

**БелаПАН**

# ПОДОРОЖАЛИ ТЕЛЕФОННЫЕ ПЕРЕГОВОРЫ

**После трехмесячного перерыва в Беларуси вновь выросли тарифы на услуги электросвязи со странами ближнего и дальнего зарубежья (телефонную, телеграфную и телексную).**

В частности, телефонные переговоры подорожали на 6,2–6,5 процента. Теперь минута телефонного общения с Украиной обойдется в 219 рублей (ранее — в 206), Литвой, Латвией и Эстонией — в 324 (305), Молдовой — в 329 (309), Киргизией, Туркменистаном и Узбекистаном — в 362 (341), Казахстаном — в 434 (408), Грузией — в 557 (524), Таджикистаном — в 650 (611), Арменией — в 744 (699), Азербайджаном — в 782 (735).

В отношении России введена новая тарификация разговоров. Отменено ее деление на европейскую и азиатскую части. Единый тариф составляет теперь 267 рублей. До этого минута разговора с европейской частью этой страны стоила 243 рубля, азиатской — 294.

Что касается стран дальнего зарубежья, то минута общения с Польшей стоит теперь 324 рубля (ранее — 305), Чехией — 294 (276), Германией и Францией — 309 (291), США — 960 (904), Израилем — 1.124 (1.058). Самые дорогие разговоры — с абонентами ряда государств Ближнего Востока и Юго-Восточной Азии (Вьетнамом, Китаем, Иорданией и др.) — 2.246 рублей (ранее — 2.112).

С 21 до 9 часов в будние дни и круглосуточно в выходные и праздничные дни действуют льготные тарифы.

**Дмитрий ВЛАСОВ**

# ИНТЕРНЕТ СТАНЕТ ДЕШЕВЛЕ

**С 1 января в Беларуси снижаются тарифы на услуги доступа к сети Интернет.**

Как сообщили БелаПАН в управлении маркетингом РО "Белтелеком", тарифы будут снижены для всех категорий пользователей: для населения и национальных поставщиков услуг Интернета (провайдеров) — в среднем на 20 процентов, для предприятий и организаций — на 50. Снижение тарифов стало возможным благодаря расширению внешних интернет-каналов и ликвидации множественности курсов белорусского рубля.

В частности, размер ежемесячной оплаты точки доступа к Интернету для национальных поставщиков услуг (без учета НДС) снижается с 1.672 до 1.318 долларов США при скорости потока 64 Кбит/с и с 3.175 до 2.510 долларов при скорости потока 128 Кбит/с. Оплата точки доступа с предельной величиной скорости потока (2Мбит/с) уменьшается с 33.435 до 26.423 долларов.

Тарифы на транспортные услуги коммутируемого доступа в Интернет для населения снижаются с 18,8 до 13 рублей за минуту в рабочие дни с 8 до 20 часов, с 11,2 до 10 рублей в рабочие дни с 20 до 8 часов и с 9,2 до 8 рублей в выходные и праздничные дни круглосуточно, а для предприятий — соответственно с 0,037 до 0,017, с 0,028 до 0,01 и с 0,018 до 0,01 доллара США за минуту.

В то же время тарифы на услуги беспарольного доступа в Интернет по коду 8-600-100 снижаются для предприятий, но увеличиваются для населения. Для предприятий доступ подешевеет с 0,055 до 0,034 доллара за минуту в рабочие дни с 8 до 20 часов, с 0,028 до 0,014 в рабочие дни с 20 до 8 часов (в выходные дни останется на прежнем уровне — 0,018 доллара с 9 до 2 часов, 0,009 — с 2 до 9 часов). Для населения доступ подорожает с 14 до 14,9 рубля в рабочие дни с 20 до 8 часов, с 9,2 до 9,8 рубля в выходные дни с 9 до 2 часов, с 4,6 до 4,9 рубля в выходные дни с 2 до 9 часов (в рабочие дни с 8 до 20 часов тариф останется на уровне 28 рублей).

**Дмитрий ВЛАСОВ**

## Галоўная ёлка КРАІНЫ



Фота IREX/ProMedia

***Так выглядае навагодняя ёлка на Кастрычніцкай плошчы сталіцы Беларусі***

# НОВЫЕ ТАРИФЫ НА КОММУНАЛЬНЫЕ УСЛУГИ

**В декабре в Беларуси вновь выросли тарифы на многие виды коммунальных услуг для населения.**

Так, по сравнению с ноябрем на 7,6 процента увеличилась квартплата (техобслуживание), настолько же подорожали отопление, горячая вода, холодная вода и канализация, газ, вывоз и обезвреживание отходов, на 9,2 процента выросла плата за пользование лифтом.

В абсолютных цифрах для жителей Минска тариф на холодную воду и канализацию повысился с 45 до 48,4 рубля за кубический метр, отопление — с 56,7 до 61 рубля за квадратный метр общей площади, газ — со 102,7 до 110,5, вывоз отходов — с 42,6 до 45,84, обезвреживание отходов — с 27,6 до 29,7, плата за пользование лифтом — с 67,8 до 74,03 рубля на человека. Стоимость одной гигакалории тепловой энергии, идущей на подогрев воды, увеличилась с 2.086 до 2.244,3 рубля.

Ставка квартплаты (техобслуживания), единая для всей республики, выросла с 7,89 до 8,49 рубля за квадратный метр общей площади. На прежнем уровне осталась плата за электроэнергию (14,4 рубля за киловатт для городских жителей с газовыми плитами, 10,4 рубля для городских жителей с электроплитами и сельского населения) и пользование радиоточкой (105 рублей).

По итогам 2000 года плата за пользование лифтом выросла в 1,9 раза, тариф на холодную воду и канализацию — в 2,8 раза, на газ — в 3,1 раза, квартплата — в 3,8 раза, тариф на обезвреживание отходов — в 5,6 раза, вывоз отходов — в 5,7 раза, отопление и горячую воду — в 8,3 раза, электроэнергию — в 10-10,7 раза (в зависимости от типа плиты и места проживания).

В следующем году рост тарифов на коммунальные услуги продолжится. Так, 16 декабря на 40 процентов выросла стоимость газа (до 154,4 рубля при наличии газовой плиты и горячего водоснабжения). Это повышение будет учтено в январских расчетных листках.

**Дмитрий ВЛАСОВ**

# КРЫЖОВЫ ПАХОД



**Міхал Валовіч — патрыёт і абаронца сялян**

Я, амаль сямідзесяцігадовы пенсіянер, ураджэнец вёскі Парэчча Слонімскага раёна, апошнія 15 гадоў цікаўлюся гісторыяй роднай вёскі. Размаўляў са старажыламі, працаваў у архівах Гродна, Мінска, Вільні, збіраў звесткі, якія датычыліся лёсу вёскі ці падзей, якія адбываліся вакол яе. Падрыхтаваў гісторыка-краязнаўчы нарыс пра Парэчча. Два раздзелы з гэтага нарыса былі надрукаваны ў "Газеце Слонімскай", у "Пагоні" і ў часопісе "Спадчына". Гэтыя публікацыі выклікалі цікавасць у чытачоў, але яшчэ большую ў жыхароў Парэчча. Гэта зразумела, ім вельмі хочацца ведаць, колькі гадоў нашай вёсцы, хто былі іхнія продкі, як яны жылі і працавалі, вучыліся і маліліся. Даведацца пра знаных людзей, якія тут нарадзіліся, працавалі, уносілі ўклад у паляпшэнне жыцця. Хацелі людзі ведаць і пра тых, хто ганьбіў і прыніжаў іх годнасць.

З архіўных матэрыялаў вядома, што Парэчча — вельмі старое паселішча, упершыню ўпамінаецца 450 гадоў таму (1556 год), таму мае вялікую і багатую гісторыю. Вельмі адметную ролю ў жыцці Парэчча адыграў вядомы ліцвінскі род Валовічаў. У артыкуле "Лістападаўскае паўстанне 1830 года і ўдзел у ім Міхала Валовіча" я распавёў пра шляхціча Міхала Валовіча, ураджэнца маёнтка Парэчча (маёнтак знаходзіўся ў 1 км ад вёскі). Гэта быў адукаваны чалавек. Належаў да той часткі нацыянальнай эліты, якая вызначала гістарычныя шляхі развіцця нацыі і брала на сябе адказнасць за іх здзяйсненне. У 1830-31 гг. ён прымаў актыўны ўдзел у паўстанні палякаў, беларусаў і летувісаў супраць царскай Расіі. Паўстанне было жорстка падаўлена, дзесяткі тысяч паўстанцаў былі сасланы на катаргу ці ў штрафныя роты. Другая частка паўстанцаў, сярод якіх быў М. Валовіч з бацькам Казімірам, вымушана была падацца ў эміграцыю ў Францыю.

Міхал не змірыўся з паражэннем і працягваў барацьбу за незалежнасць Літвы (так у той час называлася Беларусь). У 1833 г. ён нелегальна вярнуўся на Радзіму і арганізоўваў партызанскія атрады для барацьбы з расійскім паняволеннем. Валовіч быў прызначаны начальнікам вызвольнага руху ў Слонімска-Навагрудскай акрузе. З 10 мясцовых сялянаў ён стварыў партызанскі атрад, які планаваў напасці на слонімскую турму, каб вызваліць былых паўстанцаў, якія там утрымліваліся.

Аб дзейнасці атрада Валовіча даведаўся Гродзенскі генерал-губернатар Мураўёў. Ён арганізаваў аблавы ў Слонімскім, Навагрудскім, Лідскім і Гродзенскім паветах, у якіх удзельнічала больш 10 тысяч салдат, паліцэйскіх і мясцовых сялянаў, і вылавіў паўстанцаў у Шундроўскіх лясах. Пад непасрэдным кіраўніцтвам Мураўёва 2 жніўня 1833 г. у Гродне сялянаў-паўстанцаў збілі бізунамі і розгамі ды адправілі ў штрафныя роты ці ў Сібір, а іх камандзіра, Міхала Валовіча, павесілі. За гэты ўчынак Мураўёў атрымаў ад гродзенцаў мянушку "Вешальнік", якая за ім замацавалася на ўсё жыццё.

У Парэччы яшчэ ў міжваенны час (у 1920-30-я гады) хадзілі чуткі, што маці Валовіча выкупіла цела сына і таемна пахавала яго каля парэцкай уніяцкай царквы, якая ў той час належала Валовічам. Так гэта, ці гэта толькі легенда, сёння цяжка сказаць. У 1933 годзе, на 100-ыя ўгодкі з дня павешання Валовіча, дырэктарам Гродзенскага музея Ю. Ядкоўскім былі зроблены раскопкі на месцы пакарання Валовіча, але ніякіх слядоў ад яго цела там не было знойдзена. Тая плошча ў Гродне, на якой адбывалася павешанне, была названа "плящам Валовіча". На былой сядзібе Валовічаў у Парэччы, якая знаходзілася побач з царквой, быў узведзены велічны мармуровы помнік. А ў вёсцы Шундры быў пастаўлены помнік паплечнікам Міхала Валовіча — сялянам. Пасля прыходу бальшавікоў у Заходнюю Беларусь, у 1940 годзе ўсё гэта было зруйнавана. Не зразумела, за што? Бо Валовіч змагаўся за звяржэнне царызму і вызваленне беларусаў ад нацыянальнага прыгнёту. Ён адзін з першых выступіў супраць прыгоннату і за надзяленне сялянаў уласнай зямлёй. Разумеў, што прыгонны — гэта раб, а раб не можа быць тварцом прагрэсу.

### Як знішчалі Парэцкую царкву

У другім сваім артыкуле "Парэцкая царква" я распавёў аб гісторыі вясковай царквы. З архіўных дакументаў вядома, што драўляная уніяцкая царква ў Парэччы была пабудавана Валовічамі ў XVII стагоддзі і месцілася побач з маёнткам. Вакол яе былі уніяцкія могілкі, абнесеныя каменнаю агароджаю. Пры прымусовым пераводзе грэка-каталікаў (уніятаў) у праваслаўе, гэтая уніяцкая царква ў 1842 годзе згарэла. Вялікі прыход з 3000 вернікаў на 25 гадоў застаўся без храма (была толькі невялічкая каплічка на парэцкіх праваслаўных могілках).

У 1855 г. у гэтую каплічку быў прызначаны малады і энергічны Аляксандр Гарачка. Ён дабіўся выдзялення сродкаў для пабудовы каля новых праваслаўных могілкаў, што месціліся каля самай вёскі, новай царквы. Быў атрыманы дазвол на яе пабудову на месцы згарэлай уніяцкай, бо ад яе застаўся моцны падмурак, агароджа і 15 кубічных сажанёў каменняў. Каменны праваслаўны храм быў пабудаваны за два гады (1865-67). Акрамя таго, Гарачка быў першым настаўнікам парэцкага народнага вучылішча, адкрытага ў 1860 годзе.

Памёр Гарачка ў 1889 годзе. Удзячныя прыхаджане пахавалі яго каля пабудаванай ім царквы, на былых уніяцкіх могілках. Узвялі прыгожы чыгунны помнік, увенчаны высокім крыжам. Магілку абнеслі металічнаю літою агароджаю. Ішлі гады. Яшчэ сем святароў вялі службу ў гэтай царкве. Усё было прыстойна.

Але пры Хрушчове, у часы актыўнага будаўніцтва камунізма і ваяўнічага наступлення на рэлігію, мясцовыя ўлады зачынілі Парэцкую царкву. Там размясцілі калгасны склад, а пазней яе спалілі. Скінутыя з царквы крыжы здалі на металалом. А потым даручылі вучням мясцовай школы зламаць металічны помнік і агароджу на магіле Гарачкі і таксама здаць дзяржаве на пераплаўку. Я думаю, каб ведалі школьнікі, што яны разбураюць магілу першага парэцкага настаўніка, у іх не паднялася б рука зрабіць такое дзікунства. Пакінутую без агароджы магілу потым раскапалі нейкія варвары, мяркуючы чымсьці пажывіцца. Але нічога там не знайшлі, бо ў труну з памерлымі святарамі ніякіх каштоўнасцей не клалі, апрача нагруднага крыжа. Расчараваныя вынікамі сваёй нялюдскай працы, яны нават не засыпалі яе.

У час усплёску беларускага Адраджэння мясцовы калгас сумесна з праваслаўнай царквой зрабілі спробу адрамантаваць царкву. Была пакрыта бляхай званіца і пастаўлены на ёй крыж, узведзены рыштаванні і нават зацягнуты некалькі бэлек на сцены. Але за 10 гадоў цэлы калгас з магутнейшай тэхнікай не здолеў адрамантаваць храм, які нашымі продкамі голымі рукамі быў пабудаваны за два гады.

### Справа Мураўёва-"вешальніка" жыве і цяпер

4 лістапада 2000 г., на Дзяды, група патрыятычнай моладзі Слоніма прынесла на сваіх плячах і ўстанавіла на ўмоўнай магіле Валовіча пяціметровы металічны крыж з надпісам "Ва ўшанаванне памяці беларускага паўстанца Міхала Валовіча (1806 — 1833) і ягоных паплечнікаў, якія ахвяравалі сваё жыццё ў барацьбе за вызваленне Беларусі ад расійскага царызму". Крыж быў асвечаны святаром.



*Парэцкая царква, лета 2000г.*

Усталявалі крыж каля агароджы былых уніяцкіх могілак, недалёка ад муроў спаленай праваслаўнай царквы, пабудаванай на падмурку уніяцкай, якая да 1832 года належала Міхалу Валовічу. Была выбрана форма крыжа Ефрасінні Полацкай. Такі крыж быў сімвалам хрысціян-беларусаў да распаду хрысціянства на праваслаўных і каталікоў. Аналагічны крыж у пазамінулым годзе быў асвечаны мітрапалітам Беларускай праваслаўнай царквы Філарэтам і прызнаны адметнаю святыняю Беларусі.

Але прастаяў крыж каля Парэцкай царквы трошкі больш за месяц. Як не дзіўна, па ініцыятыве праваслаўнага святара і пры падтрымцы раённых і мясцовых уладаў, 8 снежня яго выкапалі і, магчыма, знішчылі...

Традыцыйна беларусы бараніліся ад пошасцяў, навалы, мору і гібелі ўстаноўкай крыжоў каля сваіх селішчаў. І ніхто, апрача бальшавікоў, на іх не падымаў руку, бо гэта лічылася вялікім грахом.

Няўжо гісторыя знішчэння святыняў, помнікаў і крыжоў нас нічому не навучыла? Ці палепшылася жыццё парэцкіх людзей, калі па загаду розных начальнікаў і чыноўнікаў былі знішчаны ў Парэччы помнік Валовічу, спалена царква, разбурана магіла першага настаўніка і святара Аляксандра Гарачкі? А можа разбагацелі за гэты час нашы людзі, можа сталі дабрэйшымі, больш спагадлівымі і сумленнымі?

Парэчча — унікальная вёска. Ці многа знойдзеце на Слонімшчыне вёсак, якія далі такіх людзей як Міхал Валовіч. Ён увайшоў у падручнікі гісторыі Беларусі, у беларускія энцыклапедыі. Пра яго жыццё і подзвіг напісана кніжка Кацярынай Сідаровіч-Чарнеўскай, пра яго згадвае Адам Мальдзіс у сваёй кнізе "Падарожжа ў XIX стагоддзе". Аляксандр Ходзька ўвекавечыў яго ў сваёй паэме.

Можа ўжо прыйшоў час усвядоміць, што хопіць ісці супраць натуральнага права людзей самім вызначаць свой лёс! Толькі за апошнія 400 гадоў парэцкіх сялян прымусілі тройчы паламаць сваю веру (250 гадоў былі грэка-каталікамі, 100 гадоў — праваслаўнымі, 50 гадоў — савецкімі бязбожнікамі), зруйнавалі два іхніх храмы, тройчы выкідалі крыжы, войнамі забіралі сотні жыццяў. Хопіць гэтых здзекаў! Лепш чым займацца выкопваннем і знішчэннем крыжоў, то лепш было б скіраваць гэтыя намаганні на тэрміновае прывядзенне ў парадак магілы святара і настаўніка Аляксандра Гарачкі, на хутчэйшую адбудову царквы, на ўзвядзенне помніка і адкрыццё музея Міхалу Валовічу ў Парэччы. Задумайцеся, людзі, якія спрычыніліся да разбурэнняў, што вы не вечныя. Ці было б вам прыемна ведаць, што нашчадкі будуць падобным чынам здзекавацца над вашай памяццю і нішчыць вашыя магілы? Задумайцеся, якую памяць вы пакінеце аб сабе ў Парэцкім летапісу.

А сёння стаіць сіратліва ў полі абпаленая, абадраная, забытая цяперашнім святаром і ўладамі Парэцкая царква. Зарасла дарога да святыні. Як балючая рана на нашым сумленні, каля яе ляжыць разбураная магіла з касцямі, перамешанымі са смеццем і друзам, першага парэцкага праваслаўнага святара і настаўніка Аляксандра Паўлавіча Гарачкі. А на заходнім баку ад царквы засталася яма ад крыжа, які быў устаноўлены добрымі людзьмі на ўмоўнай магіле Міхала Валовіча.

Пабойцеся Бога! Вярніце на месца асвечаны крыж!

**Аляксандр ТАЛЕРЧЫК**

---

**ПАМЯЦЬ**

## ЖМЕНЬКА ЎСПАМІНАЎ ПРА ВАЛЯНЦІНУ АДАДУРАВУ

**У гэтыя першыя студзеньскія дні новага 2001 года цудоўнаму чалавеку, шчырай паэтцы Валянціне Ададуравай споўнілася б толькі 60. На вялікі жаль, цяжкая і невылечаная хвароба не дала ёй дажыць да гэтай юбілейнай даты.**



Валянціна Захараўна — мая зямлячка, родам яна была з вёскі Хадзявічы. Тут жылі яе бацькі, тут жывуць яе сваякі. Відаць, ад Бога ёй быў дадзены паэтычны дар. Яна пісала вершы пра тое, што было бліжэй сэрцу: пра вёску і пра людзей, якіх ведала, якіх моцна любіла. У вершах паэткі гучала няўтольная прага любові да Слонімшчыны і да Зэльвеншчыны, дзе яна жыла і працавала настаўніцай у школе. Паэтка ганарылася, што жыве сярод сваіх людзей, жыве ў глыбінцы.

Пры жыцці Валянціне Ададуравай удалося выдаць свой адзіны паэтычны зборнік, які яна так і назвала "Глыбінка":

*Я цяпер жыву ў глыбінцы.*
*Не горад тут, што ні кажы.*
*Ды не ў глыбінцы —*
*у сэрцавінцы,*
А для душы няма глушы.

Сапраўды, у яе душы ніколі не было глушы. Хаця, хто ведае, што яе трывожыла, аб чым яна хвалявалася. Пры сустрэчах Валянціна Захараўна больш цікавілася і турбавалася за лёс іншых людзей. Яна любіла творчую інтэлігенцыю, асабліва маладых паэтаў, якіх ласкава называла толькі па імёнах. Пра свае клопаты і праблемы старалася не гаварыць. Аддушынай для яе былі літаратурныя вечары і сустрэчы, яна гэтым жыла, радавалася. А выступала — як артыстка, дэкламуючы свае творы.

Чытаючы зборнік вершаў Валянціны Ададуравай, адчуваеш цяпло ад яе паэтычных радкоў, якія прысвечаны вёскам, дзе жыла паэтка, а таксама прыродзе, якой захаплялася. Няма, відаць, у Беларусі паэта, які б так моцна любіў вёску і апісваў яе, як наша зямлячка. Свае творы паэтка прысвяціла Хадзявічам, Шавулічам, Манцакам, Ялуцавічам, Елцы, Сынковічам. У кожным творы — прызнанне ў аддансці і любові да гэтых знаёмых з дзяцінства мясцін:

*У жыцці нямнога мне патрэбна,*
*Як зярняці ў веснавой раллі,*
*Каранямі б прырасці да глебы*
*На бацькоўскай песеннай зямлі.*

Так і сталася. Яна — тут, яна — з намі. Сціплая, добрая і таленавітая.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ІНТЭРВ'Ю

# МАСТАК-АНІМАТАР жыве ў Альбярціне



**Слонімец Андрэй Сідараў мае рэдкую прафесію — мастак-аніматар (анімацыйнае кіно — мультыплікацыя, від кінамастацтва, ад лацінскага *animatus* — адушаўлёны, жывы). Яшчэ ў савецкія часы ў айчынных аніматараў быў такі жарт — аніматараў у нас менш, чым касманаўтаў...**



*Дожджж*

**Андрэй Сідараў нарадзіўся ў 1967 годзе ў Слоніме. Закончыў слонімскую СШ № 7, паступіў у мінскае мастацкае вучылішча імя Глебава. Служыў у Савецкай арміі. Пасля арміі шукаў у Мінску працу, а яе не было. У 1989 годзе для мастакоў насталі цяжкія часы...**

— У той час я пачаў маляваць коміксы, — гаворыць Андрэй Сідараў. — Адзін з іх нават надрукаваў, у часопісе "Бярозка". Атрымаў за яго 150 рублёў ганарару. Гэты першы мой комікс стаў і апошнім. Праўда, зрабіў яшчэ некалькі, але для сябе...

Неяк вяртаўся з рэдакцыі і сустрэў хлопца, які вучыўся са мной у вучылішчы. Ён сказаў, што адкрылася незалежная студыя "Анімацыйны беларускі цэнтр" (АБЦ) і там можна атрымаць працу. Сапраўды, работу атрымаў. На трэці месяц я ўжо стаў аніматарам. Праўда, у мяне да гэтага часу ніякай аніматарскай адукацыі няма, адна толькі практыка...

Студыя "АБЦ" выпусціла толькі адзін паўнаметражны фільм рэжысёра Белавусава "Дакамерон". Фірме не хапіла грошай, і яна зачынілася. Бо вядома, што аўтарскае кіно патрабуе фінансавых укладанняў, але прыбытак ад яго невялікі.

**— А канкурэнты ў АБЦ былі?**

— Існавала і цяпер існуе дзяржаўная студыя "Беларусьфільм". Але там, па-ранейшаму, вельмі мала робіцца фільмаў. Грошы на "Беларусьфільме" вельмі малыя.

**— І ў такім разе, чым займаюцца беларускія аніматары?**

— Большасць з тых, хто працаваў у Анімацыйным беларускім цэнтры ў 1993 годзе паехалі ў Польшчу. Я таксама, хаця перад гэтым паспеў папрацаваць настаўнікам малявання і чарчэння ў вясковай школе пад Мінскам...

Вось мы з сябрам і прыехалі ў горад Бельска-Бяла (каля чэшскай мяжы), цэнтр польскай анімацыі. Менавіта там рабіўся вядомы мультфільм пра Лёліка і Боліка. Працавалі на адной з мясцовых студый, рабілі серыял для французскай студыі "Піксібокс". У Бельска-Бяла сабраліся аніматары з усёй Еўропы: з Беларусі, Украіны, Францыі...

**— І колькі часу ідзе на выраб серыялу?**

— Мы ў месяц рабілі дзве серыі па 22 мінуты. А серыял складаўся больш чым з 20 серый.

**— У Польшчы былі доўга?**

— Не. Прыехалі туды ў жніўні, а вярнуліся напрыканцы снежня. А я планаваў вярнуцца ў верасні, каб звольніцца са школы. А атрымалася так, што на студыі грошай не плацілі, а са школы мяне звольнілі з адпаведным запісам у працоўную кніжку. Так што, можна сказаць, што паездка аказалася няўдалай.

Але дзесьці ў 1995 годзе ў Мінск прыехалі палякі з варшаўскай дзяржаўнай студыі: рэжысёр і дырэктар фірмы. Яны вырашылі сабраць усіх беларускіх аніматараў. Набралася чалавек дванаццаць. У Варшаву паехалі толькі ўчатырох.

Я працаваў у Варшаве і ў Бельска-Бяла. Польскія аніматары цяпер не хочуць працаваць з нейкімі заходнімі варыянтамі казак, нават папулярнымі, а працуюць са сваім, нацыянальным. У гэтым плане яны патрыёты. Яны вяртаюць гледачам сваіх аўтараў, можа нават і забытых, але раней вядомых.

**— Коміксы ў Польшчы папулярныя?**

— У Польшчы шмат коміксаў, і сваіх, і заходніх. Шмат аўтараў прафесійна працуюць з коміксам. У іх ёсць часопіс, які называецца "Свет коміксаў". Ёсць асобны часопіс з навінамі пра тое, што адбываецца ў свеце коміксаў у Польшчы і за мяжой.

У нас коміксаў зусім няма. Таму што ў Беларусі дарагі друк, дарагая папера. І калі паставіць сапраўдны кошт, то іх проста ніхто не купіць. Гэта будзе вельмі дарага...

**— У Польшчы добра аплочваецца работа беларускіх аніматараў?**

— Палякі плацяць не шмат. Расцэнкі застаюцца сёлета на ўзроўні 1996-га года. Але ў іх поўна работы. Палякі не думаюць пра тое, што будзе заўтра. У іх стабільнасць у гэтым плане. Усе працуюць, усе задаволены.

З кожным годам польская анімацыйная фірма пашыраецца ўсё больш і больш. У іх абнаўляецца тэхніка, яны набываюць больш удасканаленыя камп'ютэры. Дарэчы, цяпер кожны чалавек можа адкрыць сваю студыю. Трэба толькі мець добры камп'ютэр. Праз Internet можна знаходзіць нейкую працу, выконваць яе і атрымоўваць грошы.

**— "Валідзія" — гэта...**

— Беларуская студыя камп'ютэрнай графікі. Існуе яна з сярэдзіны 90-х гадоў. Вядучы аніматар гэтай студыі калісьці таксама працаваў у Польшчы.

**— Чым сёння займаецца "Валідзія"?**

— Цяпер яна робіць рэкламу. Амаль уся рэклама, якая цяпер з'яўляецца на БТ, робіцца на "Валідзіі". Для вытворчасці рэкламы патрэбны і аніматары, бо некаторыя элементы трэба маляваць. Але гэта дае невялікі заробак для аніматараў, таму студыя бярэ заказы з-за мяжы, з Германіі, Францыі, з іншых краінаў.

**— У чым прычына, што рэклама на БТ такая... прымітыўная?**

— Усё з-за беднасці. Каб плацілі сапраўдныя грошы за рэкламу, то была б і нармальная прадукцыя. А так... Калі секунда рэкламы ацэньваецца, прыблізна, як секунда анімацыі ў дрэнным серыяле, то зразумела, што і ўзровень яе адпаведны.

Наогул, анімацыя — гэта вельмі працаёмкі працэс, бо трэба маляваць шмат малюнкаў. Дарэчы, існуюць дзве прафесіі, якія абсалютна звязаны адна з другой: аніматар і фазаўшчык. Аніматар малюе галоўныя малюнкі, асноўныя рухі, а фазаўшчык робіць прамежкавыя малюнкі паміж галоўнымі. І калі аніматар сам займаецца вырабам прамежкавых малюнкаў (замест фазаўшчыка) і разумее, што ён на гэтым не заробіць грошай, а толькі згубіць час, то ён звычайна робіць мінімум гэтых малюнкаў. Атрымоўваецца і адпаведная тузаная "карцінка" на экране...

**— Ці можа ў перспектыве так здарыцца, што маляваць ужо не трэба будзе, бо ўсё зробіць тэхніка?**

— Зусім можа быць. Ужо ёсць такія праграмы, якія робяць простую "фазоўку". Але аніматар усё роўна павінен намаляваць асноўныя малюнкі і рухі. Пакуль гэта яшчэ складаны працэс.

Цяпер вельмі папулярная трохмерная анімацыя. Цалкам камп'ютэрная анімацыя, але і там прысутнічаюць моманты, якія малююцца, але ўжо ў камп'ютэры. На "Валідзіі" ужо спрабуюць так працаваць. Была зроблена рэклама шкляначак марозіва "Топ". На мой погляд, трохі няўдала атрымалася, але ўсё ж такі атрымалася. Сама аб'ёмная выява прысутнічае, але рухаюцца шкляначкі яшчэ не так, як трэба.

**— А можна па рабоце пазнаць почырк аніматара?**

— Наогул, гэта складана, але можна. Асабліва, калі робіцца серыял, то працуе вельмі шмат аніматараў і адрозніць іх можна. Найперш, розны ўзровень іх падрыхтоўкі. Таму што вельмі многія людзі, як і я, пачыналі з нуля, ніхто іх не вучыў альбо яны прайшлі кароценькія курсы...

**Сяргей ЁРШ,**
**малюнкі Андрэя СІДАРАВА**



*Ісус*



*Без назвы*

НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ

## *Пагаварылі*

На высокім ганку раённага вузла сувязі сустрэліся дзве пажылыя кабеты: адна падымалася ўверх, другая спускалася ўніз. Сталі акурат пасярэдзіне.

— Як ты жывеш, галубка? Дзе цяпер твой малодшы ўнук? — сыпанула пытаннямі тая, што ішла ўверх.

— Ой, і не пытайся пра гэтага гультая, — махнула рукой сяброўка. — У школе адны тройкі атрымліваў, то цяпер на нейкага меліterrarysta вучыцца. А куды ж яшчэ з такімі ведамі сунецца.

— Можа на трактарыста? — пытае другая.

— Не збівай мяне, не на трактарыста. Кажу табе, на мелітарыста.

— Што ты пляцеш? — абурылася субяседніца. — Няма такой прафесіі.

— А я кажу ёсць. І мой унук вучыцца.

— Ха-ха, — засмяяўся падлетак, што таксама стаяў на ганку і хуліганіста раскачваў парэнчы.

— На трактарыста... На мілітарыста... — перадражніў ён бабкаў.

— На меліяратара, пэўна, ён вучыцца. Цемната... — папракнуў старых.

— Во-во! — зрадавалася тая, што адказвала на пытанні. — Я ж і кажу, што ні на трактарыста...

## *Удар Буйвала*

Мы з дзедам Міхасём адагналі кароў ад жыта і ўселіся на вялізным цёплым валуне. Парослы велюрам моху, нагрэты вясновым сонцам, ён быў цёплы, як печ, засланая пледам.

— Усе камяні з ваколіцы папрымалі, а гэтаму, відаць, і трактар рады не даў, — пагладзіўшы аксаміт моху, кажа дзед. — Памятны каменьчык, нешта накшталт мемарыяльнай дошкі. Некалі мяне тут пабілі.

— За што? — шчыра здзівілася я, бо з дзяцінства ведала, што Міхась Астапчук спакойны і добры.

— За ветлівасць, — усміхнуўся дзед у сівы мох барады. — Даўно гэта было, яшчэ за палякамі. Маладым хлопцам я прыйшоў у вашу вёску ў прымы. Не памятаю цяпер, дзе ў тую нядзельку была мая жонка, але да касцёла я пайшоў адзін. Ну, туды адзін, а назад надарыўся мне ў спадарожнікі чалавек з другога канца вёскі. Высокі такі, мажны, за мяне значна старэйшы, а дужэйшы, можа, разы ў два.

Маленькі ўсохлы дзядок паляпаў пугаўём па галяніўшчы гумовага бота і апавядаў далей:

— Дык вось, ідзём мы з касцёла дадому. За мястэчкам паздымалі з ног боты, каб не рваць дарэмна, і крочым па цёплай, пыльнай дарозе, гутарым. Я да яго звяртаюся ветліва: "Пане Буйла, пане Буйла!". А ён слухаў, слухаў, а потым як урэжа мне з правай, я і паляцеў. Акурат ля гэтага каменя справа была. Стукнуў ён мне і шпарка пайшоў наперад.

Я сеў на камень, выцер з твару кроў, і, ледзь не плачучы ад крыўды, паплёўся следам. Так і не зразумеў, за што ён мяне.

Яснасць унесла цешча. Як толькі ўбачыла размаляваны Буйвалавым кулаком твар, так і прысела, завохала: а хто? а за што?

Я і расказаў.

— Ой, маліся Богу, што ён цябе зусім не прыкончыў, — залементавала цешча.

— Гэта ж у яго мянушка такая — Буйвал, а прозвішча Старынчык. Буйвалам ніхто яго ў вочы не заве, бо не любіць страшэнна, адразу кулакі ў ход пускае. А ты ж не ведаў, — спачувальна паківала галавой старая.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

# Дрэўцы без КАРАНЁЎ



Малюнак Яўгена ІВАНОВА

## на жыццёвых скрыжаваннях

Маленькая чарнявая дзяўчынка зашылася ў куточак спальні і ніяк не хацела адтуль выходзіць. Што выхавацелька не рабіла: упрошвала пайсці павячэраць, абяцала паказаць новыя цацкі, расказаць цікавую казку — малая ні з месца. Яна моўчкі стаяла ў кутку і блукала позіркам то па акуратна засцеленым ложку, то нешта разглядвала на століі.

— Танечка, скажы мне, што здарылася? — паклаўшы на маленькую галоўку сваю цёплую далонь, у каторы раз пытала жанчына, ужо не верачы, што атрымае адказ. І раптам у душы Танюшы нібы прарвалася нейкая плаціна. Яна схавала на грудзях у выхавацелькі свой тварык і горка заплакала. А потым, калі падняла вочкі, жанчына, якая нямала пераўжыла на сваім вяку, была здзіўлена да глыбіні душы: такой мукі, такога адчаю ў вачах дзіцяці яна не бачыла ніколі.

— Мая мама і сёння не прыехала, а яна ж абяцала, яна ж у пісьме пісала, што прыедзе менавіта сёння.

Так яны і сталі, абняўшыся, дзве жанчыны: зусім маленькая і ўжо даўно дарослая. Маленькая ніяк не магла зразумець, чаму на свеце існуе такая несправядлівасць, і яе пакінула мама, а дарослая, кожны дзень бачачы пакуту адзіноты ў вачах сваіх выхаванцаў, не магла даравяць такім мамам самага большага, самага цяжкага граху — здрады сваім дзецям.

— Давай пасля вячэры напішам ёй пісьмо, Танечка, — прапанавала.

Маленькая выцерла мокрыя ад слёз вочы і кіўнула галоўкай у знак згоды.

Гэта пісьмо яна напісала сама, без падказкі. Роўным ланцужком клаліся на паперу словы, вымучаныя, выплаканыя бяссоннымі начамі. Здавалася, яна пісала крывёй свайго маленькага змучанага сэрца: "Мамачка, прыязджай, я так хачу цябе бачыць. Як добра было б, каб ты больш ніколі не піла гарэлкі. Тады нам не трэба было б разлучацца. Мне так сумна і адзінока, мамачка..."

Пісьмо адправілі, але адказу так і не атрымалі. І наўрад ці атрымаюць. Мама Тані, як і многія бацькі выхаванцаў школ-інтэрнатаў, прамяняла сваё дзіця, сваю крывіначку, на бутэльку гарэлкі.

Таніна мама, знаходзячыся ў лячэбна-працоўным прафілакторыі, калі-ніколі дасылала ў школу-інтэрнат пісьмы, у якіх прасіла не аддаваць дачку на ўсынаўленне. Яна пераконвала, што будзе добра сябе паводзіць і з цягам часу ёй вернуць мацярынскія правы. Як жа радавалася Танечка такім лістам, якая шчаслівая яна была! Кожны раз, атрымаўшы вестку ад мамы, сядала пісаць ёй адказ. І колькі цеплыні і пяшчоты было ў словах гэтай дзяўчынкі. Яна пасылала маме свае малюначкі, падрабязна расказвала пра жыццё і ледзь не ў кожным радку прасіла: "Мамачка, мілая, прыязджай!.." Прасіла, як просяць людзі ў Бога здароўя ці збаўлення ад якой чорнай навалы.

І вось нарэшце Таня атрымала вестачку, што мама збіраецца да яе. Дзяўчынка свяцілася шчасцем, яна лічыла мінуткі да жаданай сустрэчы. І мама прыехала... П'яная. Але ўсё роўна шчаслівейшага за Танечку чалавека, мабыць, не было ва ўсім свеце. Ну, хіба хто адважыцца сказаць, што яе мама дрэнная? Ды яна ж лепшая за ўсіх, самая прыгожая, самая разумная, добрая. Абяцала яшчэ прыехаць. І вось не прыехала...

Ніколі не кажыце выхаванцам школ-інтэрнатаў, што ў іх дрэнныя мамы, маўляў, пазбаўлены самых святых правоў, п'юць без меры гарэлку, бадзяюцца па свеце. Няпраўда! У сэрцах хлопчыкаў і дзяўчынак жыве вобраз мамы вельмі чысты, без жыццёвых плям і бруду. Ён, як агеньчык адзінокага падарожніка, прыцягвае да сябе, кліча, абяцае цяпло і дабрыню. І ўдвая балюча, горка бывае малому сэрцайку, калі яго падмануць.

Што там казаць: бацькі выхаванцаў школ-інтэрнатаў не такія частыя госці, як хочацца дзецям. І ўсё роўна, калі да каго прыедзе мама, малыя бягуць з усіх куткоў і кожны крычыць: "Гэта мая мама, мая, мая..." І калі госць аддае перавагу сапраўднаму шчаслівчыку, астатнія ў скрусе адыходзяць. Пасля гэтага яны нейкі час ходзяць панурыя, зацятыя, не хочуць ні есці, ні вучыць урокі. Вялікая драма адбываецца ў маленькіх пакінутых душах. І няма сродкаў, каб пазбавіць іх ад пакут. Што з таго, што прыгожыя і ўтульныя кабінеты, што чысцінёй ззяюць спальні. Ім аддзінока і холадна. Добрыя настаўнікі і выхавальнікі, якія душу ўкладваюць у сваіх хлопчыкаў і дзяўчынак, часта бываюць у роспачы: не дастукацца, не дагукацца да маленькага пакрыўджанага сэрца.

А як дзеткам хочацца мець роднага чалавека, як ім трэба адчуваць, што не адзінокія ў гэтым суровым, бязлітасным свеце. Ёсць у адной школе-інтэрнаце дзве дзяўчынкі. І вось яны даведаліся, што неўзабаве тут будзе вучыцца яшчэ адна іх сястрычка. Нібы найвялікшага свята чакалі прыезду малышкі: у дзень сустрэчы апранулі новыя сукеначкі, акуратна прычасаліся. І колькі было радасці, калі маленькая кінулася ў іх абдымкі. Цяпер дзяўчынкі неразлучныя: яны разам ходзяць на прагулкі, дапамагаюць меншай засцілаць ложак, любяць яе і берагуць.

У адзінокіх, абдзеленых шчасцем дзяцей вельмі чулыя душы. Яны цягнуцца да дабрыні, як кволыя травінкі вясной цягнуцца да сонечнага святла. І ўсякая крыўда, несправядлівасць, абраза, на якую так званыя дамашнія дзеці могуць і ўвагі не звярнуць, для іх — сапраўдная трагедыя. Вось знайшлася ў адным горадзе "добрая" цётка, якая прывучыла да сябе маленькую дзяўчынку са школы-інтэрната, на выхадныя дні пачала забіраць яе дамоў. Як жа чакала гэтых дзён малая, дзялілася сваёй радасцю з усімі: "Праз два дні прыйдзе цётка і забярэ мяне да сябе, праз дзень прыйдзе..."

І вось аднойчы цётка не прыйшла. Зразумеўшы, што не дачакаецца, дзяўчынка проста змянілася з твару, перастала ўсміхацца, стала замкнёнай. Яна страціла самае дарагое — веру ў чалавека, які быў ён блізкім на зямлі.

А цётка потым наведалася ў школу-інтэрнат і растлумачыла педагогам, што забіраць дзяўчынку больш не будзе, бо дома не ладзіцца жыццё з мужам. Яна нават не падумала пра тое, якую вялікую душэўную рану нанесла маленькай. Забылася, што школа-інтэрнат — гэта не пункт пракату, дзе можна ўзяць дзіця, пазабаўляцца з ім, прывучыць, а потым адпіхнуць. Трэба было такой "дабрадзейцы" дзесяць разоў узважыць усе магчымасці, перш чым працягнуць руку адзінокаму маленькаму чалавеку. А цяпер ад яе "прыгожага" жэсту ў дзіцяці застаўся толькі боль.

... Гляджу ў даверлівыя чыстыя вочкі хлопчыкаў і дзяўчынак, і сэрца ахінае чорны туман смутку. Гэтыя малышы нагадваюць мне дрэўцы без каранёў, бо і цяпер, і пасля, як вырастуць, любыя жыццёвыя віхуры могуць іх зламаць, знішчыць. За іх няма каму заступіцца, ім няма на чым плячы выплакаць сваё гора. Адзінота... Яна будзе вернай спадарожніцай іх жыцця і цяпер, і ў сталым узросце. І ўвесь час прыйдзецца разлічваць толькі на свае сілы, волю, розум. Такі жорсткі лёс. І самае балючае, самае незразумелае, з чым ніколі не пагодзіцца сэрца, што гэты лёс угатавалі ім родныя мамы. Ох, каб тыя ведалі, што робіцца ў адзінокіх душах іх дзетак, каб адчулі увесь боль і ўсю горыч, што назапасіліся там за гады блукання сярод чужых людзей, то можа за кіламетр абыішлі б тую гарэлку. Ці каб бачылі, як старанна выводзяць маленькія ручкі, якія нават яшчэ добра не ўмеюць трымаць аловак: "Мамачка, любая, прыедзь..." Але каб усё гэта адчуць, усвядоміць, сэрцам зразумець, трэба быць сапраўдным чалавекам, любячай мамай. А яны гэта святое слова не заслужылі. Ці то Бог пакараў іх такой чорнай карай? Але тады за што і дзеці? За што?!

Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ

# ГАДЗІННІК

## дэтэктыўнае апавяданне

**(Заканчэнне.**
**Пачатак у №52,53 2000г.)**

7

Да палонкі Рамана прывяла Лада. Каля рэчкі, дзе Раман звычайна з ёю гуляў, яна раптам тоненька заскуголіла і, упіраючыся лапамі, пацягнула Рамана за сабою.

— Лада, стаяць! — злуючы, скамандаваў Раман.

Паслухмяная Лада ўпершыню не выканала ягонай каманды. Яна ўпарта цягнула за сабою. Быццам нейкае зацменне на яе найшло.

— А, чорт з табою! — у адчаі ўсклікнуў Раман і трушком пабег за Ладай.

Каля берага, парослага абледзянелымі лазовымі кустамі, Раман убачыў шырокую палонку (яе тут высякалі "маржы" — мясцовыя аматары зімовага купання), у якой нерухома ляжалі трое мужчын, пакрытыя тонкім лядком. Адзін з іх, тоўсты, грузны, у карычневым паліто з каракулевым каўняром, ляжаў на спіне. На ягоным лобе крывавіла рана, а правая, сагнутая ў локці рука паказвала на Рамана.

— Дзядзька Сымон! — пабялеўшымі вуснамі прашаптаў Раман.

Непадалёку ад Сымона, пасярод палонкі, абняўшыся, як перад развітаннем, ляжалі Іван і Эдзік.

На Рамана напаў страх.

— Людзі-і! — на ўвесь голас закрычаў ён.

Сталі збягацца людзі. Некаторыя, убачыўшы ў палонцы мёртвых мужчын, затулялі твары рукамі і адыходзіліся, божкаючы. На палонку, зацягнутую лядком, падаў сняжок. Лада выла, не сціхаючы. Да яе наблізіўся мужчына ў бухматай лісінай шапцы і тупнуў нагою:

— Сціхні!

Лада ашчэрылася на яго.

— Не лезьце, бо ўкусіць, — папярэдзіў Раман і, сеўшы на кулішкі, абняў Ладу, шчакою прытуліўшыся да яе. Ён так і сядзеў, пакуль не прыехала міліцыя.

Наперад ступіў высокі падпалкоўнік.

— Хто першым убачыў забітых? — запытаўся ён.

— Я, — глуха адазваўся Раман. Ён расказаў міліцыянеру, як Лада прывяла яго да палонкі. А яшчэ паведаміў, што ў палонцы ляжаць бацькавы сябры: Сымон, Іван і Эдзік.

8

Праз два дні, калі Раман вярнуўся са школы, маці сустрэла яго ў слязах.

— Сыночак, нашага тату забралі ў турму.

У апошнія дні на мацерыных шчоках слёзы не высыхалі. Яна аплаквала загінуўшага брата Эдзіка.

Раман заўважыў, што маці згорбілася, пастарэла, а яе каштанавыя валасы пасівелі.

На табе! Яшчэ адна навіна: бацька ў турме! Яшчэ гэтага ім не хапала.

Да Рамана падбегла Лада, пачала лашчыцца. Раман нагою адпіхнуў яе.

— За што яго пасадзілі?

— Абвінавачваюць, што забіў Сымона, Івана і Эдзіка! — каб не ўпасці, Валянціна спіною прытулілася да сцяны. — Эдзічак! Я цябе ўгаварыла ехаць у Германію. Калі б не ўгаварыла, жыў бы ты, Э-дзічак!

— Мама, не галасі, бо і так млосна, — папрасіў Раман.

— Не буду! — прагаварыла Валянціна і дрыжачай рукой выцерла слёзы. — Сыночак, іх застрэлілі. Мабыць, з таго рэвальвера, які быў у Івана.

— А пры чым тут бацька? Бацька знаходзіўся ў бальніцы.

— Іх, кажуць, застрэлілі раніцай, пасля шасці гадзін. Бацьку з бальніцы ў шэсць адпусцілі.

У Рамана тарганулася левае вока. Раней з ім такога не было. "Не толькі ў маці, але і ў мяне нервы разышліся. А мне яшчэ жыць і жыць", — падумаў ён і сказаў:

— Няхай сястра засведчыць, што ў яе быў.

— Сястру не хочуць слухаць.

— Мама, ім не ўдасца даказаць, што бацька сваіх сяброў застрэліў.

— Прызнаецца, калі добра палупцуюць.

— Няхай стаіць на сваім.

Валянціна выпрасталася, слёзы перасталі цячы з вачэй.

— Сыночак, ты не ведаеш, як у нас робіцца. Ім злачынства трэба раскрыць. Сыночак, сёння Эдзіка з морга прывезлі, заўтра будуць хаваць. Схадзі ў магазін, купі кветкі. Дзесяць калаў, запомні. Грошы ў буфеце вазьмі.

— У мяне ёсць грошы! — крыкнуў Раман і, не надзеўшы шапку, выскачыў з кватэры.

Пакрыўджаная Лада, падтуліўшы хвост, пайшла па калідоры. Яна так і не зразумела, чаму малады гаспадар, вярнуўшыся са школы, не вывеў яе на прагулку.

9

Раман купіў дзесяць калаў, як і сказала яму маці.

Валянціна сядзела на канапе, скрыжаваўшы рукі на грудзях.

— Сынок, як ты думаеш, яны спадабаюцца дзядзьку Эдзіку?

Раман сцепануў плячыма.

— Калы?

— Калы, сынок.

Раман спадылба зірнуў на маці.

— Мама, дзядзька Эдзік нежывы, зразумей ты. Яму ўсё роўна, якія кветкі прынясуць. Ён іх не ўбачыць. Мы нясём гэтыя калы не для яго, а дзеля людзей, каб не абгаварылі нас. Хіба не так я кажу?

— Не, сынок, — не пагадзілася Валянціна. — Я прынясу кветкі не суседзям і не сваякам, а тваймy дзядзьку Эдзіку. Ён яшчэ прыйдзе да нас і пра ўсё, пра ўсё запытаецца. І пра гэтыя кветкі, і пра іншае.

Раман ніжэй апусціў галаву.

— У сне?

— Магчыма, у сне. Магчыма, на дарозе сустрэне. — Голас у Валянціны зрываўся. Ёй цяжка даваліся кожнае слова.

Раман забарабаніў пальцамі па стале.

— Мама, вазьмі сябе ў рукі.

Валянціна перайшла на шэпт:

— Сынок, ты сёння пойдзеш са мной да дзядзькі Эдзіка?

— Пайду, — націснуўшы на літару "д", адказаў Раман.

Валянціна расшчаміла руку. На яе далоні ляжаў круглы залаты гадзіннік.

— Сынок, гэта імянны гадзіннік дзядзькі Сымона. Я яго знайшла ў тваім партфелі. Ты ўкраў у дзядзькі Івана рэвальвер, калі вечарам Ладу на прагулку выводзіў?

Шчокі ў Рамана сталі чырвоныя-чырвоныя. Здавалася, вось-вось кроў пырсне з іх.

— З курткі ўзяў.

— Я заснула, а ты іх пайшоў страляць, каб забраць грошы?

Раманавы пальцы дакрануліся да кветак. Ён адхапіў руку, як ад агню.

— Ну, забраў! Дзевяць тысяч забраў! Чорт паблытаў! Разумееш?..

— Пастраляў і ў палонку спіхнуў? Спадзяваўся, што яны па рацэ паплывуць? А рака там плыткая. Затрымаліся, не паплылі. — Валянціна ўзяла гадзіннік за ланцужок і кінула на падлогу.

"Цік-так, цік-так", — незвычайна гучна пачулася ў цішыні.

— Ён цікае, не разбіўся, — здзіўлена прагаварыла Валянціна.

Вочы ў Рамана забегалі.

— Мама, я вырашыў камерцыйй заняцца. Мне патрэбен першапачатковы капітал!

Валянціна рукамі абхапіла галаву.

— Эдзік — твой дзядзька. У яго пяцёра дзетак засталося. Ты падумаў пра іх?

Раман скрывіўся. Здавалася, вось-вось заплача. Не, не заплакаў, стрываў.

— Я вялікія грошы зараблю і на ногі гэтых дзетак пастаўлю.

— А калі б твой бацька быў там, то і яго застрэліў бы? — усё дапытвалася Валянціна, імкнучыся зразумець, як такое магло здарыцца.

— Мама, памаўчы ты! — закрычаў Раман.

На падлозе ляжаў залаты гадзіннік: "Цік-так, цік-так," — цікаў ён, адлічваючы час.

Аляксей ЯКІМОВІЧ

Газета Слонімская
4 — 10 студзеня 2001г. № 1 (187)

МІНІ-ФУТБОЛ

# Альбярцінскія футбалісты сталі чэмпіёнамі Слоніма

**На працягу двух тыдняў у снежні мінулага года ў слонімскім спарткомплексе праходзіў чэмпіянат горада па міні-футболу.**



*Момант гульні за трэцяе месца "Газавік" — "Дынама"*

Яшчэ перад пачаткам чэмпіянату арганізатары турніру разам з прадстаўнікамі каманд-удзельніц вырашылі, якім чынам будзе праводзіцца першынство Слоніма 2001 года. Было запланавана стварэнне першай і другой ліг, у якія каманды павінны былі трапіць па выніках сёлетняга чэмпіянату. Тры лепшыя каманды з кожнай групы (усяго 6) аўтаматычна трапляюць у першую лігу, а астатнія ўдзельнікі — у другую лігу. Гэтая "рэформа" павінна садзейнічаць выраўніванню класа каманд, якія будуць змагацца за тытул чэмпіёна Слоніма.

Да ўдзелу ў чэмпіянаце Слоніма былі дапушчаны ігракі-прафесіяналы з "Камунальніка". Кожная каманда атрымала права заявіць у свой склад па 2 такіх ігракі.

З першай групы ў 1/2 фіналу без праблем выйшлі "Дынама" і каманда СКПЗ "Альбярцін" (апошняя была ўзмоцнена Георгіем Татарашвілі і Мікалаем Дымам). З другой групы на выхад ў паўфінал прэтэндавалі чатыры каманды: ДЮСШ-Альбярцін (узмоцненая ігракамі "Камунальніка" Валянцінам Гайдэцкім, Мікалаем Астапчыкам, а таксама дырэктарам альбярцінскай ДЮСШ Георгіем Вярбіцкім), "Газавік", "Талент" (узмоцненая іграком каманды 2 лігі "Баранавічы" Сяргеем Пашкевічам), ДЮСШ-І (за яе выступаў ігрок мастоўскага "Нёмана" Анатоль Грацкевіч). У выніку, у 1/2 фіналу трапілі ДЮСШ-Альбярцін і "Газавік".

Паўфінальныя матчы далі такія вынікі: ДЮСШ-Альбярцін — "Дынама" — 8:1, СКПЗ "Альбярцін" — "Газавік" — 4:4 (асноўны час, а па пенальці перамаглі альбярцінцы). Трэцяе месца ва ўпартай барацьбе дасталося мінулагодняму чэмпіёну, "Газавіку", які з мінімальнай перавагай выйграў ў дынамаўцаў — 4:3. У фінале сустракаліся дзве альбярцінскія каманды. Больш настойлівай аказалася СКПЗ "Альбярцін", якая перамагла ДЮСШ-Альбярцін з лікам 7:6.

Пераможцы былі ўзнагароджаны грашовымі прызамі і граматамі, якія ўручаў старшыня спорткамітэта гарвыканкама Генадзь Вількіцкі. Акрамя таго, каманда кардонна-папяровага завода атрымала права ўдзельнічаць у першынстве вобласці па міні-футболу, якое пройдзе ў Слоніме 25-27 студзеня.

Па словах суддзі спаборніцтваў Аляксандра Гусара, па выніках чэмпіянату Слоніма былі створаны сімвалічныя зборныя. У зборную "А" увайшлі: варатар Валянцін Гайдэцкі (ДЮСШ-Альбярцін), абаронцы Мікалай Дым (СКПЗ "Альбярцін"), Дзмітрый Снапко (ДЮСШ-Альбярцін), нападаючыя Мікалай Астапчык (ДЮСШ-Альбярцін) і Георгій Татарашвілі (СКПЗ "Альбярцін"). У зборную "Б" былі ўключаны: варатар Юрый Кароль ("Газавік"), абаронцы Дзмітрый Аначанка ("Брыгада"), Алег Герасімчык (ДЮСШ-Альбярцін), нападаючыя Аляксандр Боцік ("Талент") і Віктар Доста ("Газавік").



*Гуляюць СКПЗ "Альбярцін" і ДЮСШ-Альбярцін. Аляксандр Кадаўбік (злева), Дзмітрый Снапко (у цэнтры) і Мікалай Астапчык*

Такім чынам, у наступным годзе ў першай лізе чэмпіянату Слоніма па міні-футболу будуць выступаць: СКПЗ "Альбярцін", ДЮСШ-Альбярцін, "Дынама" (ГРАУС), КПФ, "Газавік" і "Талент" (футбалісты 1984 г. н.). У другую лігу трапілі: "Водаканал", "Медвучылішча", "Ліцэй", ДЮСШ-ІІ (футбалісты 1984 г. н.), ДЮСШ-І (футбалісты 1982 г. н.) і "Брыгада".

**Алег ТАЧОНЫ,**
**Віталь ГІЛЬ (фота)**



*Момант фінальнага матчу*

## Спартыўная годнасць

**У Дзятлаве названы лепшыя спартсмены 2000 года па розных відах спорту. Іх вызначыў савет па фізкультуры, спорту і турызму райвыканкама сумесна з федэрацыяй па відах спорту.**

Так, лепшымі валейбалісткамі прызнаны Тамара Сокал і Вольга Губарэвіч, лёгкаатлетамі — Сяргей Чудзілоўскі і Юрый Скрабей, футбалістамі — Іван Русін, Уладзімір Лябедскі, Аляксей Якаўчык, Аляксандр Жыгала і інш.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## "Дынама" пашырае сваю гандлёвую сетку

**Нядаўна ў Гродне прайшоў другі Пленум абласной арганізацыі "Дынама", на якім абмяркоўваліся перспектывы развіцця таварыства на бліжэйшыя пяць гадоў.**

Галоўным дасягненнем у спартыўнай рабоце быў прызнаны ўдзел 9 спартсменаў у XXVII летніх Алімпійскіх гульнях і заваяванне аднаго залатога медаля. Была звернута ўвага на паляпшэнне фінансава-гаспадарчай дзейнасці, для чаго прадугледжваецца пашырэнне дынамаўскай гандлёвай сеткі ў райцэнтрах вобласці, у тым ліку і ў Слоніме, а таксама стварэнне сваёй паляўнічай гаспадаркі.

**"МВ"**

# Галоўны трэнер з'явіцца ў студзені

**З пачатку снежня мінулага года застаецца вакантнай пасада галоўнага трэнера слонімскага "Камунальніка".**

На гэтую пасаду прэтэндуе каля 12 чалавек, але рэальных кандыдатаў значна менш. Рашэнне па кандыдатуры новага галоўнага трэнера павінен прыняць, у паразуменні з Саветам клуба, прэзідэнт ФК "Камунальнік", старшыня Слонімскага гарвыканкама Алег Лакцюшын.

Кіраўніцтва клуба хоча бачыць на пасадзе галоўнага трэнера спецыяліста, які б рабіў стаўку на моладзь і ўмеў з ёй працаваць. Кантракт з пераемнікам Аляксея Шубянка будзе заключацца на два гады, з умовай, што за гэты час будзе створана новая каманда. Да 15-20 студзеня клуб павінен ужо мець галоўнага трэнера і распачаць падрыхтоўчы перыяд да сезону.

Па словах генеральнага менеджэра ФК "Камунальнік" Генадзя Бабошкіна, "клуб адыходзіць у новы год без запазычанасці перад футбалістамі". Нядаўна футбалісты атрымалі грошы па запазычанасці па зарплаце.



Фота Віталя Гіля

*Алег Лакцюшын (злева) павінен вырашыць, хто займе пасаду галоўнага трэнера «Камунальніка»*

Цікава, што амаль усе футбалісты мінулагодняга складу "Камунальніка" хацелі б застацца ў Слоніме. Хаця некаторымі ігракамі "Камунальніка" цікавяцца клубы вышэйшай лігі чэмпіянату Беларусі.

**Сяргей ЁРШ**

НАВІНЫ

## Гродзенцы прайгралі віцебчанам

**У Гродзенскім абласным Доме дзіцячай творчасці прайшоў рэспубліканскі турнір па шашках-64 "Рыцары думкі-2000".**

У турніры ўдзельнічалі школьнікі 1987 года нараджэння і маладзей. Нягледзячы на тое, што наша вобласць была прадстаўлена ўсімі мацнейшымі камандамі, перамаглі госці — шашысты г.Глыбокае Віцебскай вобласці. Лідэры Гродзеншчыны захавалі пазіцыі ў звычайным складзе: Ваўкавыск (быў аслаблены тым, што васьмікласнік Ігар Міхальчанка ўдзельнічаў у чэмпіянаце свету сярод дарослых у Адэсе), Гродна і Слонім (самая юная каманда).

Рэпутацыю мацнейшай вясковай шашачнай школы ў вобласці пацвердзілі вучні Рахавіцкай сярэдняй школы (Слонімскі раён). Яе каманда па выніках спаборніцтваў размясцілася за землякамі-гараджанамі.

## Шашысты з Рахавіч — чэмпіёны

**Нядаўна вызначыліся чэмпіёны 2000 года па шашках сярод школ Слонімскага раёна.**

У чарговы раз імі сталі вучні Рахавіцкай сярэдняй школы, якая была прадстаўлена дзвюма камандамі. Яны падзялілі першае месца, намнога апярэдзіўшы прызёраў — сялявіцкіх і шылавіцкіх спартсменаў.

У катэгорыі базавых школ толькі каэфіцыент вызначыў пераможцаў — каманду з Парэчча, за імі — Вострава і Дзеравянчыцы. Па-за канкурэнцыяй былі Рахавічы і ў асабістым заліку. Усіх сапернікаў перамог Аляксей Журовіч, яго партнёры Андрэй Зенаў і Дзмітрый Шаўцоў — на 2-ім і 3-ім месцах у асабістым заліку.

Сярод дзяўчат абсалютнай пераможцай стала Аксана Арцёменка (Рахавічы). Алена Лагуцік (Вострава) — мацнейшая сярод шашыстаў з базавых школ.

## Баскетбалісты сустрэліся ў вайсковай часці

**Завяршылася апошняе ў XX стагоддзі першынство Слонімскага раёна па стрытболу.**

Напомнім, што стрытбол — гэта гульня на палове пляцоўкі з аднačасовым удзелам трох ігракоў у кожнай камандзе. Яе адметнасць — чысціня памкненняў, строгае выкананне правілаў, пакаранне за "брудную" гульню.

Спаборнічалі каманды гаспадарак, арганізацый, устаноў у спартзале ваеннай часці. Трэба адзначыць добрую арганізацыю спаборніцтваў. Удзельнікі атрымалі прыемныя ўражанні ад сустрэч з ваенаслужачымі, ад знаёмства з іх працай і адпачынкам.

Ва ўпартай двухдзённай барацьбе чэмпіёнамі сталі баскетбалісты аб'яднанага калектыва Рахавіцкай сярэдняй школы і калгаса імя Суворава, якія былі прадстаўлены дзвюма камандамі і занялі два першыя месцы. У складзе каманд гулялі Аляксандр і Мікалай Багданы, Аляксей і Леанід Журовічы, Мікалай Хмыз і Аляксандры: Аляксейчык, Амшэй, Мармыш і Жукоўскі.

На трэцім месцы спартсмены саўгаса "Слонімскі". Пераможцы атрымалі ўзнагароды: каманды — прэмію і граматы, лепшыя іграві Аляксей Журовіч, Юрый Крот і Віталь Лыскавец — каштоўныя памятныя сувеніры-прызы.

**Мікалай НАВІКЕВІЧ**

